I—1912. Жнівень 5-ая кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

Падпісная цэна на 1 год **1** р. **20** кап. на 6 месяцоу **60** кап., за перамену адрэсу **20** кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна ме[illegible]ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам **40** к., за тэкстам **20** к. За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу **7** руб. ад тысячы

**Цэна асобнаго нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

# Ці можна касіць, або спашываць у першым гаду канюшыну?

Калі рана вясной па жыце пасеяна чырвоная канюшына і калі яна добра ўзыйшла і расьце буйна, то трэба ждаць, што посьле жніва маладая канюшына пачне крэпка разрастацца. Да палавіны верасьня маладая чырвоная канюшына можэ ўжо столькі ўзрасьці, што пачне выпускаць завязь на краскі. Цяпер для гаспадара падыймаецца пытаньне, ці гэта маладая канюшына павінна быць скошэна у першым гаду бяз шкоды для узросту ў будучыне, ці лепей будзе, калі мы спасьвім яе скацінай. Іншые гаспадары думаюць, што маладая чырвоная канюшына у першым гаду павінна быць спасена, а не скошэна. Але гэта абмылка: акуратне зразумеў яе адзін немецкі гаспадар, даючы прыклады з сваей практыкі.

Тры гады ён сеяў па жыце рана вясной чырвоную канюшыну. Жыто дасьпевало к канцу чэрвеня і да палавіны ліпня, і, само сабой, поле рана жалося,—вось, посьле жніва канюшына буйна разрасталася, так што ўжо ў верэсьні паказывалася завязь на краскі. А як на гэтай дзелянцы нельга было спасьвіць канюшыну, яе скасілі і аддалі на зялёны корм. Не было ніякага знаку, каб гэта скашываньне пашкодзіло на узрост канюшыны у другім гаду. Наадварот, канюшына на другі год пусьцілася так буйна расьці, што перэд часам палегла.

Калі-ж у першым гаду канюшыну скасіць раней, чым пакажуцца краскі, то гэткая касьба лёгка можэ пашкодзіць на ураджай канюшыны у другім гаду, асабліва калі косяць яе познай восеняй ды перэд марозамі. У пазалеташнім гаду на пробнай дзелянцы, каторую скасілі восеньню перэд краскамі, была вельмі дрэнная канюшына, ня гледзячы на тое, што з другіх дзелянак на гэтым самым полі быў добры укос канюшыны.

Дзеля гэтаго ніколі ня трэба скашываць маладой канюшыны у першым гаду да красаваньня, але яе трэба спасьвіць скацінай; калі-ж касіць яе на зялёны корм, то трэба касіць высока і, чым пазьней у восень косім канюшыну, тым вышэй мы павінны касіць яе.

У першым гаду буйна разросшаяся канюшына не павінна зазімаваць у полі ня выкарыстанай. Калі маласьнежная зіма і не пашкодзіць канюшыне, то зіма, багатая сьнегам, лёгка можэ атпарыць яе ўсю.

Калі варункі пазваляюць, то як пасьба, так і касьба чырвонай канюшыны у першым гаду павінна быць закончэна тады, калі ешчэ будзе наперэдзі годзі часу на тое, каб маладая канюшына пасьпела адрасьці да марозаў.

**Гаспадар.**

Годъ I—1912. Жнівень 5-я кніжка.

# САХА

ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІКЪ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



## Сеўба жыта.

Набліжаецца час сяўбы жыта, найбольш расшырэнай збажыны у нас.

Добры гаспадар ужо заўчасу рупіцца аб тым, каб добра выпоўніць гэту важную работу.

Звычайна сеюць у нас жыта посьле двох разовай оркі. Калі земля задзервянела то лепей перэд апошняй оркай ўзрыхліць зямлю пружыннай бараной. Другі раз араць трэба глыбей чым першы, а самае важнае—трэба спешацца з гэтай работай.

Жыта няможна сеяць у сьвежа ўзараную зямлю, карашкі жыта вельмі баяцца аседаньня зямлі, каторая аседаючы абрывае карашкі, што вельмі шкодна адбіваецца на жыце. Трэба даць адлежацца зямлі 3 — 4 тыдні да сяўбы і лепей спозніцца с пасевам, чым сеяць у не адлежаўшуюся зямлю. Самы лепшы час для сяўбы, прынамсі для Віленскай губэрні, трэба лічыць час ад 15—30 жніўня (аўгуста). Чым клімат зімнейшы, тым раней трэба сеяць жыта. Заместа вельмі познай сяўбы, лепей ралю пакінуць да вясны і засеяць ярыцай, ці якой другой ярыной.

На больш урадлівых землях і па сьвежым гнаю можна сеяць і пазьней — жыта там справіцца да зімы, на дрэнных землях і асабліва на песках трэба канечна пасьпешацца с сяўбой.

Жыта кусьціцца, блізка што, толькі з восені, а дзеля гэтаго позные пасевы не дадуць добрых кустоў жыта.

Высеваецца жыта 9—12 пудоў на дзесяціну, чым насеньне буйнейшае, тым больш на вагу трэба высеваць яго, апрача таго на больш гноўных землях трэба сеяць рэдзей. Гэтак сама позная сеўба павінна быць гусьцейшай чым ранейшая.

Сеюць у нас жыта зазвычай рукамі ў роскід на заарана поле і пасьля барануецца. Запраўляць жыта трэба мелка. Глыбока запраўленае жыта церпіць ад таго, што карэньня расьлін павінны два разы кусьціцца, адзін раз пры глыбока лежачым зярне, а другі раз каля верху зямлі, гэтак выходзіць, што жыта у гэтым прыпадку, бытцым дармо працуе. Але лепей за ўсё сеяць жыта пры памачы радавой сеялкі, і нават самые дробные гаспадары павінны карыстацца радавымі сеялкамі, пры сельска-гаспадарскіх кружках дзе ёсць пункты для пазычкі сельска-гаспадарскіх машын, на гэтые пункты правіцельство дае вядомае числo грошы.

Жыта страшэнна баіцца вады у глебе і на верху. Дзеля

гэтаго трэба рабіць для стоку вады барозны і пільнаваць каб яны не засыпаліся і вада магла схадзіць па іх с поля.

Жыта у нас сеюць зазвычай па папару, у катором за лета набіраецца запас пажыўных солей у зямлі. Але усё часьцей пачынаюць сеяць жыта і па „атсевах“: па папару на каторым была засеяна віка, гарох, ячмень і т. п. у гэткіх прыпадках часта бывае добры ураджай саломы, але мала зерна. Бывае гэта затым, што расьліна не мае у зямлі паддастаткам фосфорнай кіслаты, без каторай ня можэ добра развівацца зярно. І тым канечна трэба падсыпаць штучных навозоў — супэрфосфату ці, томасшляку. На цяжкіх землях часьцей за ўсё ужываюць супэрфосфат, на лёгкіх томасшляк, каторы у нас пачынае быць найбольш вядомым навозам.

Супэрфосфату высеваюць 2 — 3 мяшкі на дзесяціну, а томасшляку 3—4 мяшкі.

Фосфорные навозы добра высеваць і на папару, толькі трэба абмінаць дужа дрэнные мейсцы, дзе нічога ня можэ расьці. Апрача фосфорных навозоў добра высеваць і калійные навозы да 30—40 пудоў каініту, каторы трэба сеяць загадзя перэд сяўбой, або калійнай солі 6 — 9 пудоў на дзесяціну, каторую, як і фосфорные навозы, можна сеяць перэд самай сяўбой жыта.

Апрача гэтых навозоў карысна высеваць у восень да 2 пудоў сялітры, каторая адразу паправіць самуе благіе усходы, і вясной калі пачнецца рост азіміны высеяць 4 — 6 пудоў тэй самай сялітры, каторая дасць самые цэнную пажыву для расьлін, азот.

Добра удаецца жыта на заараным лубіне, каторы с кожным годам ўсё больш і больш пашыраецца у нас. Лубін трэба заарываць як мага плытчэй, бо іначэй ён прападзе для жыта.

Цяпер сеюць жыта зара пасьля таго, як зааралі лубін, але для гэтаго лепей прыкачаць поле перэд сяўбой, на тое, каб земля не асела і не папсавала карэньня маладому жыту.

На насеньне трэба браць „першае чало“ жыта. Трэба яго добра правеяць на арфе і атабраць на высеў самае буйнае зярно. Бо даведзена, што буйнае зярно дае куды лепшы ураджай, чым дробнае. Канечна трэба ачышчаць насеннае зярно ад насеньня рознаго зеліва. Калі ёсць у жыце гірса, то яе трэба ацдзеліць, або арфай, або лепей браць насеньне с такога мейсца, дзе гірсы саўсім не бывае.

З гатункоў жыта, апрача звычайнаго селянскаго, дужа трывалае, але ня дужа умалотнае, гэто жыто „Собешчанскае“, „Высокалітоўскае“. і „Пэткускае“, каторае дае вельмі добрые ураджаі заграніцай і ў Польшчы; у нас часам саўсім прападае ад нашых зім з глыбокімі сьнегамі,—і мы яго не раім, асабліва для дробных гаспадарак.

**Тутэйшы аграном.**

# Як падняць гадоулю скаціны у дробных гаспадарках нашага краю.

У нашым краю пры яго вільготным і умяркаваным клімаце, пры дастатку натуральных сенажацей, пры зямлі на каторай удаюцца лепшые кармовые травы і землеплоды, маем усе варункі спрыяючые гадоўлі уселякай скаціны, а дойных кароў у першы чарод.

Апрача таго, усё узрастаючы лік гарадоў і мястэчак у нас вытварае збыт на малочные прадукты у сваім краю, ды ешчэ загранічные рынкі с кожным годам купляюць усё больш нашаго масла; да таго у нас больш за ўсё дробных гаспадарак, а ведама, што дробные гаспадары лепей могуць дагледзець скаціну, як вялікіе, каторые павінны рабіць гэта чужымі, наемнымі рукамі

І трэба дзівіцца с таго, што у нас усюду скаціна гэткая дробная, што з году ў год кароўкі нашы не палепшаюцца, а драбнеюць і не даюць такога даходу свайму гаспадару.

Каней у нас з даўна больш любяць і больш каля іх рупяцца; часта сам гаспадар не даедае, каб толькі добра каня накарміць, а на бедную кароўку ніхто не зьвертае увагі. Пакуль былі у нас вялікіе лясы, ды балотные пасьбішчы—лепей жылося нашай кароўцы, а цяпер, як лясы павысекалі, зямлю параспахівалі — трудна прыходзіцца каровам. Чуць дацягне да вясны, аж ей бакі аблезуць і хвост надламаецца, як яе усю вясну падымае гаспадар. Выходзіць на поле, тады, калі там ешчэ нічога німа, так-сяк атхопіцца, а там ізноў трэба хадзіць па чорнай ральлі. І бывае так, што карова усё лета носіць старую поўсць. Галодная, худая вышла вясной на поле, худая прышла восеньню у хлеў.

І што-ж тут дзівіцца, што такая скаціна даходу не дае. Пасьля ацёлу, вясной па сьвежай травіцы даець ешчэ крыху малака, а пасьля скора зарываець. Наш селянін, у каторага часта усё багацтва — адна кароўка, поўгода ён есць с постам і малым дзеткам німа чаго даць.

А усё гэта павінна быць іначэй; пры нашых прыродных і экономічных варунках карова павінна даваць даход.

У нас забываюцца, што карова, гэта самая даходная жывёла ва ўсей гаспадарцы. І яе трэба лепей даглядаць.

Найперш яе трэба лепей карміць круглы год, а ня толькі калі яна дае малако.

Калі німа добрых лугоў і пасьбішч, то трэба сеяць канюшыну, віку, сэрадэлю, каб летам можна было яе падкармліваць зялёным кормам; на зіму трэба прыгатовіць бульбы, буракоў і морквы—каб кожны дзень на штуку можна было даваць хоць з гарнец бульбы праз усю зіму і вясну, пакуль ня вырасьце на пасьбішчы добрая трава і не падоймецца канюшына.

Апрача саломы і мякіны трэба даваць канюшыны і вікі,

ды ешчэ дабаўляць мукі ці вотрубей, тады карова і больш малака дасць дык і будзе ад яе не малы даход.

Пасьля трэба пастарацца каб хлевы былі цяплейшымі на зіму. Калі сьцены старые, і ценкіе, то трэба іх абкладаць на зіму саломай, мохам, ці лісьцямі з дрэва, а глаўнае агледзець добра столь. У нас на бэлькі паложаць колькі жэрдак, ды з верху прыкрыюць саломай. І мерзне скаціна пад гэтым як на дварэ. А трэба столь залажыць доскамі, ці шчыльна прылегаючымі жэрдзямі—з верху накласьці моху—ды насыпаць пяску—адным словам зрабіць так, як у хаці, тады скаціне цяплей будзе і корм у лепшую карысць пойдзе, а не толькі на разагрэваньне яе цела.

Апрача лепшаго корму і дагляду, трэба звярнуць увагу на падбор нашай скаціны.

Кабыл, то ешчэ у нас водзяць да лепшых жэрабцоў, а на кароў, то у нас не звертаюць увагі. Ходзяць усе вясковые каровы разам, якіе ёсць бычкі с такімі і пабегаюцца вясковые кароўкі.

Даўней у нас дзержалі больш валоў і быкі былі лепшые. Цяпер валы пазводзіліся, а бычкоў мала і яны надта ужо дрэнные. І ад гэтаго наша скаціна драбнее с пакаленьня ў пакаленьне.

Хто хочэ палепшыць сваю скаціну і дачэкаць з яе карысьці, той павініен на злучку кароў звертаць вялікую увагу.

Вучоные натуралісты дазналіся, што насьледзтвеннасьць—гэта вялікая сіла, што ад добрых бацькоў бывае добрае і патомства. Гэтым правам даўно ужо скарысталіся англіцкіе і немецкіе гаспадары і добрым падборам дакаталі дзівоў.

Гэтак са звычайных сваіх і прывозных арабскіх коней англічане умелым падборам вывелі такіх рысакоў, якіх сьвет да тых пор не бачыў. Дзякуючы падбору вывелі англічане гэткіх кароў і сьвіней якіх недаўна не было нідзе на сьвеці. А у малочных кароў насьледственнасць мае ешчэ большую сілу, чым у другой якой скаціны. Добрая карова будзе ня толькі ад добрай маткі, але ешчэ больш ад добраго бацькі.

Даведзена, што бык ад удойлівых матак дае такое патомства, каторае выдзеляецца найлепшай малочнасьцей. Гэтак, англічанцы, голендры, швэды за добрых быкоў плацяць аграмадные грошы — па колькі тысяч і больш, а у інных аколіцах ёсць закон, каб не вывозіць заграніцу найлепшых быкоў.

І у нас хто шчыра хочэ падняць гадоўлю кароў, той павінен падумаць найперш аб добрых быках.

У віленскай губэрні землеустраіцельная камісія завела ужо злучные пункты для паганай скаціны. Яна выбрала англіцкую чырвоную скаціну, каторая дае многа малака. У нас ёсць ужо сельска-гаспадарскіе кружкі і таварыствы, каля іх трэба былоб завадзіць і такіе таварыствы, каторые займаліся-б палепшэньнем скаціны.

Хоць у нас і не саўсім разгадана пытаньне, які завод самы прыгодны для нас, асабліва для дробных гаспадарак — ці

трэбя затрымацца на загранічных заводных, як голендэрскіе чорна-белые, самые малочные, ці на швіцах—шэрых, ці узяць больш дробны завод, як фюны ці ангельцы, ці палепшаць нашу мейсцовую скаціну—не прыбаўляючы пастароннай крыві—і выводзячы свой мейсцовы завод — але пакінуць скаціну у такіх варунках, як цяпер нельга. Трэба каб кожны кружок затрымаўся на якім небудзь заводзе, завёўбы такога быка і не пазваляў пускаць кароў да невядомых бычкоў.

Цяжэй за ўсё палепшаць скаціну не прыбаўляючы да яе пастароннай крыві, дзелятаго што німа падхадзячых быкоў, за каторых можна паручыцца, што яны радзіліся з малочных матак. Але і ў гэтым кружкі могуць многа што зрабіць.

Трэба бракаваць дрэнных целят, узгадовываць толькі лепшых, вясьці запісі удойлівасьці кароў і посьле кнігі кароў кружка. На гэта патрэбен кірунак практычных скатаводоў. Есць у нас многа урадовых, земскіх і грамадзянскіх аграномоў—каторые маглі-бы узяць гэту справу на сябе.

Трэба толькі, каб палепшэньне скаціны ішло не у асобных гаспадароў, а ў цэлых грамадах і таварыствах, як яно было у заходнай Эўропе, каторая гэткай дарогай прышла да небывалых мэт.

І на гэта павінны звярнуць увагу тые, каторым дарага падняцьце скотаводзтва у нашых дробных гаспадарках, дзелятаго, што добрая малочная скаціна гэта будучына і глаўнае багацтва нашай старонкі.

**Локос.**

---

# Гутарка аб штучных навозах.

Не адзін гаспадар скажэ: хто яго будзе ганяцца за някімі штучнымі навозамі, паскудзіць сабе рукі нет ведама у чым, калі гэто часам і сьмярдзіць і грызе у вочы ды ешчэ і дорога плаціць за яго трэба, а ці вернуцца тые грошы? Тымчасам гной нічога не каштуе, а ён варт такі больш за ўселякіе новые выдумкі.“ Гэтак сама не адзін гатоў падумаць, што гэто праўда Толькі-ж гаспадарка—нераўнуючы—як той боршч: ён смачнейшы калі яго забеліш і паложыш аводвы грыб: і глауны навоз (с хлявоў) што называюць яго простым гноем і дабавочны навоз штучны, ці зялёны. Ведама, што абыйсціся можна і без штучных навозоў, бо-ж нашы дзяды і бацкі іх не зналі, але-ж цяпер прыйшло на тое, каб найбольш карысьці выцягнуць з зямлі, а хто пробаваў, той за апошніе гады навучыўся, што, дабіцца гэтаго можна толькі спамагаючыся штучнымі навозамі.

Адным словам—хто уздумаў паставіць на сваём, хто махнуў рукой на цэлу гаспадарку, сказаўшы сабе, што усё ён ужо мае і лепшай гаспадаркі ня трэба, таму не варт талкаваць, што людзі на сьвеці маюць вялiку падмогу з гэтых навозоў: не

для гультаёў то, не для цёмных і сонных гаспадароў, што надта любяць сядзець на печы, а галавой папрацаваць баяцца,—гэта рада для тых, што гатовы ці то ад суседа, ці с кніжкі чаго небудзь навучыцца, абы толькі паправіць сваю гаспадарку ды прыдбаць з яе больш зыску, каб палепшыць сваю долю і долю тых, дзеля каторых цэло жыцьцё гаруеш...

Іншы думае што яго ўласная каротка практыка гаспадарская—гэта ужо уся мудрасць для тых, што працуюць на ральлі: „На якога беса—кажуць—мне штучны навоз — гною нічым не заступіш!“ — Другі трошкі разумнейшы пытае: „Што лепш: гной, ці штучные навозы?„ А такі абодвы маюць абмылку, бо праўда прытаілася пасярэдзіне. Людзі не вінаваты, што гэтак думаюць і гаворуць, ці пытаюць—яны не вінаваты, што маюць абмылку. Ніхай-жэ толкі у абмылцы не трываюць, ніхай разразумеюць, што адным штучным навозам абыйсціся ня можна-гэтак сама, як з адных толькі грыбоў боршчу не звaрыш. Штучные навозы ідуць толькі у прыдатку і дзеля гэтаго іх толькі *спамагаючымі* называюць.

Нашто гноім навозам зямлю? Унавожываем яе на тое, каб расьлінам, што на ей пасееш, падбавіць корму. Як скаціна не расла і хутко-бы з голоду пала, каб ей есьці і піць не даў, гэтак сама і расьліна ня вырасла-б, і борздо-бы зьвяла і памерла, каб не далі ей вады і корму. Усё, што ёсць у скаціне: мясо, косьці, скура, кроў і іншае выводзіцца с таго корму, што ей даецца, гэтак і ўсе, што ёсць у расьліне: яе кара, дрэвоціна, лісьцё, карэньне, насеньне—выводзіцца з гэтых кормоў, с каторых расьліна жыве. Як дрэнна кормленая жывёла слабее і худзее, гэтак і расьліна бяз добраго корму будзе слабенька і квола і вялікаго ураджаю гаспадару не дасць. Каб карміць скаціну трэба ведаць, што яна смачней есць, каб добра дoглядаць расьліны трэба гэтак сама ведаць, што ім да жыцьця патрэбно. Ніхто не дасць сабацы сена, ці карове — мяса, ведаючы, што ня будуць есці, бо што дзень дагледаючы ведаеш, што сабака есць, а што карова. Але чым кормяцца расьліны, таго на сваю гаспадарскую бяду не бачыш, ды і людзі вучоные многа працы палажылі пакуль даведаліся праўды.

Усякі ведае, што узрост расліны залежыць ад шмат якіх варункоў, бо апроч корму патрэба ей: цёпла, вільгаці, сьветла і трэба каб земля бёла добра выраблена і праветрывалася як мае быць. Шкода, што ня ўсе гэты варункі добраго узросту расьлін мае чэлавек у сваей руцэ і ня ўсй-ж у сіле мець па сваей волі! Але німа што бедаваць — ніхай прынамсі мое стараньне аб тым у чым яго сіла і воля Не стрымае марозу, не адверне сушы, але зямлю, калі толькі захочэ, патрапіць вырабіць добра, усцерагчыся ад вільгаці патрапіць пакапаўшы канавы, ці прагоны і не дасць каб расьліны яму з голаду прапалі. Адзін кажэ-вырабіць поле—то першае, другі кажэ — добрае насеньне—то грунт, трэцьці талкуе — нагнаі добра — то і павінна урадзіць. Німа тут віякай перэважкі — ці у выробцы,

ці ў зярне, ці ў гнаеньні. Усё аднакава важна і патрэбна і аднаго другім не заступіш.

Есць чатыры глаўные расьлінные кормы, каторых у зямлі часта нехватае, аб іх гаспадар павінен парупіцца. Гэтые расьлінные кормы называюцца: *азот*, *фосфор*, *потас* (обо калі) і *вапна*. Побоч—значыцца—цепла, вільгаці, сьветла і спраўнай вырабкі ральлі, патрэбны ў дастатку гэтые кормы, каб узгадаваць расьліны. Гэтые пожыўные мінеральные солі знаходзятца усе разам у гнаі і дзеля гэтаго гной добра напраўляе зямлю. Але гною здалёк ад гораду ня купіш, а штучные навозы заўсёды можна купіць у краме. Калі зямлі патрэбен азот, то купляюць і разсыпаюць *салетру*, калі хто хоче поддаць фосфору, то пасыпае *супэрфосфат*, або *томасшляк*, а потас (або калій) даецца пад імянем *каініту* або потасовой солі (калійнай у $30_0/^0$). Вапна даецца пад відам вядомаго усім вапна.

Падумаўшы не цяжка згадаць, што выробляючы зямлю трохі стараньней, адным гноем цяжка абыйсціся — дый нават рэдка дзе яго хопіць — ня толькі на тое каб зрабіць зямлю больш урадлівай, але каб хаця-ж яе урадлівасць з году на год не паменшалася. Бо што мы з гноем у наше поле аддаём? Адну долю таго, што з яго узялі. Часць-жэ толкі ураджаю ідзе на корм і на падсцілку, дык і часць толькі таго, што зняўшы ураджай мы ўзялі з зямлі, вернецца у яе разам з гноем. Другая часць ураджаю расходзіцца без ніякай для зямлі карысьці.

Ведаючы, што з гноем вернецца на поле толькі часць расьлінных кормоў, памятаймо, што гнаі — не гнаі тваю зямлю, а такі-ж—як той казаў—„да пары жбанок воду носіць“,— і некалі настане пара, што кормоў тых пачне зямлі нашай недаставаць, што земля памалу выпалошчэцца і добро радзіць не захоче.

Катораго корму найперш пачне зямлі нехватаць, гэто будзе залежаць ад запасу яго у зямлі, ад прыроды і ад таго, як вядзецца гаспадарка. Само сабой, што той расьлінны корм катораго у нашай зямлі было найменш, найхутчэй скончыцца. Раней, ці пазьней прыдзе пара, што земля зьялавее і зробіцца нішчэмнай. Найхучэй спусткуецца земля, калі збожжэ і бульба ідзе на продаж. Прадаў ты зярно, вывозіцца з зямлі на вечны час многа азоту і фосфорнаго квасу, а вывозячы бульбу, апроч фосфору і азоту, забіраецца ешче вельші многа потасу. Гэткім парадкам увесь азот які ёсць у збожжу і бульбе вывозіцца з зямлі, а только часць яго ворочаецца у яе з гноем. Значыцца гэтак гаспадаручы, побоч іншых кормоў для расьлін, надта скора выберэм азот з зямлі, і калі земля ня вельмі ім багата, то яе ураджайнасць шыбка паменшыцца.

Не так дренна будзе, калі побоч збожжа і бульбы, сеюцца і стручковые расьліны, злашча такіе, што ня йдуць на продаж, але не корм для скаціны, ці пад загараньне. Усякі гаспадар ведае якая корысьць завёўшы у гаспадарцы канюшыну. З ея ня толькі надта добры корм для скаціны, з яе ня толькі пяройдзе азот на тое поле, дзе яе разводзяць і зробіць яго прыдатным пад

збожжэ, але заадно акуратная гадоўля канюшыны збагаціць азотом зямлю у цэлай гаспадарцы. Бо ведама, што канюшына мае многа гэтаго азоту, што ёсць у ей, цягне с паветра. Азот гэты, скарміўшы канюшыну скацінай, пераходзіць у гной, а з ім—у поле. Разводзячы канюшыну, маеш туюю пацеху, што убытак азоту забранаго збожжэм з зямлі, заступаецца азотам, прысвоеным канюшынаю с паветра — і гэткім парадкам нашэ поле ня толькі не зьбяднее у азот, але можэ ад яго разбагацець, бо тога азоту каторы канюшына бярэ с паветра, павінна быць больш, як мога вывезенаго у праданым збожжу. Гэтаку саму вартнасць, як канюшына, будзе мець для папраўкі поля сэрадэля, лыга, лубін, гарох, пялюшка і іншые стручковые расьліны, калі толькі іх гадуем на корм для скаціны, ці пад загараньне, а не на вывоз і прадажу.

Такі-ж гадоўля стручковых расьлін, нават заведзена на большу руку, сама па сабе ня зможэ таго зрабіць, каб адзін толькі гной с хлевоў не прывёў да таго, што урадліваць зямлі, пачэкаўшы, паментае. Памятаймо-ж, што вялікіе ураджаі дабыць толькі тагды удасцца, калі у зямлі будзе паддастаткам *усіх* кормоў патрэбных расьлінам. Засеваючы больш стручковых расьлін, мы можэм папоўніць страту азоту, азотам каторы выцягне стручковая расьліна с паветра, аднак не патрапім заступіць убытку іншых расьлінных кормоў: ні фосфорнаго квасу, ні потасу, ні вапны. Тымчасам і гэтых кормоў паменшаецца у зямлі з году на год: тое вывозіцца з зярном, тое з бульбай, тое з буракамі, морквай, іншае з малаком, мясам, касьцямі і многа ў чым другім, што прадаецца з гаспадаркі. Дык затым, што гэты расьлінны корм не варочаецца з гноем у зямлю у такой меры, у якой яго з яе расьліны выбіраюць,—некалі дойдзе да таго, што земля зробіцца нішчымнай і радзіць перэстане. Адна земля спусткуецца раней, другая пазьней, але рэдка дзе знайсці такую зямлю, каб заўсёды адным гноем здаволілася і давала добрые ураджаі. На адным гнаі часьцей яна вытрывае тагды, калі ёсць у гаспадарцы сенакосы — тагды расьлінные кормы сабраные з лугоў, праз сена, скарміўшы, праходзяць у гной, а вывезенные з ім у поле заменяюць туюю страту, што вышла ад праданьня гаспадарскіх прадуктоў. Такі-ж—„ня кіем, то палкаю“ — круці, не вярці нічога ня будзе: у такой гаспадарцы не збяднее поле, але пачэкаўшы трошкі пачнуць пусьцець сенакосы; сена з іх пачне убываць, ды і не такое ужо будзе сена, як у людей і прыйдзецца, як не аднаму ужо прышлося, даваць навозы на сенакосы.

З гэтаго відаць, што хаця і найбольш выцягнем з гною карысьці, усё-ж прыдзе пара, што трэба будзе карыстацца іншымі ешчэ навозамі, каб вярнуць убытак расьлінных кормоў. Ужо ведаем, што страту азоту можна зямлі вярнуць, гадуючы стручковые расьліны — ці на пашу, ці на зялёны гной пад загараньне, можна нават такім парадкам зрабіць, што земля у гэты азот разбагацее, прыраўняўшы да таго, як была на пачатку, але ніхай у зямлі акажэцца недахват фосфорнаго квасу,

ці патасу, ці вапны і ніхай-жэ столькі з гэтай прычыны паменшаюць ураджаі, то німа ужо іншай рады, як толькі дадаць зямлі гэтых расьлінных кормоў, ды і то дадаць канечна гэтых самых, каторых у зямлі акажэцца найбольшы недахват. І тут такі адным гноем ня выкруцішся, а трэба шукаць помачы у штучных навозах, ці як іх у нас завуць „попелах“.

Найчасьцей бывае, што і добра гнаіўшы поле, найперш аказываецца недастатак фосфорнаго квасу: раз затым, што мае малы запас фосфору найчасьцей спаткаеш, а другое — дзеля таго, што прыраўняўшы да таго колькі чаго расьліны з зямлі бяруць, то фосфорнаго квасу гаспадар найбольш выбірае са свaей зямлі, бо яго найбольш у зярне, каторае прадаецца.

Не там часта і скора, пры умелым гнаеньні, акажэцца недахват потасу, бо зямлю бедную у потас не так часта спаткаеш, як такую, што хварэе ад недастатку фосфорнаго квасу, ды ешчэ і затым, што гаспадар патасу менш вывозіць, прадаючы прадукты свайго ураджаю, а больш заменяе у гной. Прычына гэтай разніцы паміж вывозкай потасу і фосфорнаго квасу ляжыць у тым, што потас збіраецца найбольш у саломе, катора чуць не заўсёды застаецца у гаспадарцы ідучы на корм і падсцілку для скаціны, а фосфорны квас, як і азот збіраецца найбольш у зярне, каторое найбольш прадаецца і ня вернецца ні ў наш гной, ні ў поле (Практыка паказала, што на тры часьці азоту, ці фосфорнаго квасу, каторые збожжэ з зямлі выцягіваюць, дзьве часьці знайдеш у зярне, а толькі адну у саломе, дый наадварот — на тры часьці потасу дзьве ёсць у саломе, а толькі адна у зярне).

Што да гатунку зямлі, — то недостак фосфору гэтак сама часта пападаецца на гліневатай, ці глінiстай, як на песчанай, або черназёмнай. Саўсім што іншае бывае с потасам. Земля гліневатая і гліністая часьцей мае гэтак многа у запасе потасу, што калі толькі гаспадар умее добра гнаіць, то вельмі падбаўляць потасу ня прыдзецца. Затое-ж землі пешчаные і торфяністые маюць вялікі недахват потасу і там адзін гаспадарскі гной не шмат паможэ, і хто захочэ з гэтай зямлі дабіцца лепшаго ураджаю, павініен дакупляць потасу у штучным навозе. Злашча там яго прыдзецца канечна дакупляць, дзе многа садзяць бульбы, ці буракоў на продаж, бо яны вельмі многа выцягіваюць з зямлі потасу і калі ня будуць скормлены на мейсцы і ня вернуцца на поле гноем, то земля ў потас збяднее і ураджаі, злашча ураджаі гэтых самых буракоў і бульбы дужа паменшаюць. І тут застаецца адзін толькі выхад — дакупіць і падкінуць потасу у штучным навозе (каініт, ці потасовая соль).

Штучные навозы, чуць ня ўсе, маюць па адным з гэтых расьлінных кормоў, аб каторых мы дагэтуль гаварылі, іншые толькі з іх маюць па два за раз—і гэто ёсць найбольшая рожніца паміж імі і гноем, багатым ва ўсе за раз мінэральные солі. З гэтаго выходзіць, што умець ужываць штучные навозы—гэта ня дудкі. На гнаі, як Бог дасьць, зародзіць заўсёды; на штучным навозе -- не усякі раз удасцца, бо — бывае—і зро-

біш абмылку: разсееш фосфорны навоз, а тут якраз патрэбен быў потасавы. Няўжо-ж дзеля таго, што такое можэ здарыцца, пабаімся штучных навозоў? Страх абойме толькі тых з гаспадароў, каторые не стараюцца дабіцца найбольш карысьці з гаспадаркі. Іншы скажэ сам сабе: цікава гэта, дый, відаць, даходна навука аб тым, як і чым кормяцца расьліны, — трэба-ж яе лепей зразумець — і с кніжкі і с самаго жыцьця, з ўласнай практыкі, прылажыўшы рукі да дзела. Наканец, адзін, другі і дзесяты зразумее, што каб умела і с карысьцю узяцца за штучные навозы трэба 1) пазнаць глаўнейшые штучные навозы і тые способы як іх ужываць; 2) ведаць які корм, якой расьліне найбольш патрэбен; 3) пазнаць акуратна сваю ўласную зямлю, каб ведаць якога корму у ей нехватае. Найлепшу навуку кожны сабе выцягне з ўласных проб на ўласнай зямлі і з сваей практыкі.

Німа тут ніякіх акуратных рэцэптоў, як і дзе які навоз лепей паможэ, бо гэто даведаешся сам найлепей папрабаваўшы. Ёсць толькі нейкіе агульные правы, каторые ужо добра і не раз спраўджэны. Правы гэты усякі добры гаспадар павінен знаць і знайдзе іх у асобнай кніжэцы: „Як ужываць штучны навоз“ (напісаў К. Карповіч).

Праца на ральлі, гэто папраўдзі асабліва пекнае заняцьце, але толькі тагды калі гаспадар сам панам сваей волі, калі умее кіраваць усім, што у гаспадарцы яго робіцца. Гаспадар павінен быць апекуном сваіх расьлін, але як для многа якіх бацькоў выхованьне дзяцей гэто якбы ігра у „сьляпу бабку“, бо часта і бацька і маці, не багаты у розум і ня ўмеючы кіраваць сэрцэм, німаюць апекунчай сілы над дзяцьмі і „ня ведаюць, што з іх выраcьце на старасьць“ — гэтак сама і для многа якіх гаспадароў, што гадуюць свае расьліны, загадка таіцца ва ўсім, што датычэ умелай гедоўлі іхніх харошых і карысных гадунцоў з расьліннаго сьвету. І тут і там за дрэнную апеку прыходзіцца крыўда найбольша самому апекуну.

Хто сягоньня сказаў-бы — на што мне рызыка на ня пэўные пробы са штучным навозам, ды, крый Божэ, на страту, калі і без яго, сяк так абыйсціся можна, таму аткажэм: на што бярэш карысны услугі ад агня, калі ён здрадны, ды як пагуляеш з ім неасьцярожна, то паліць, а то гатоў табе і ўсю худобу замяніць на попел. А такі-ж усякі і грэецца і варыць страву пры агні. Тымчасам штучны навоз нікога не згубіў, а пропасьць працавітаго народу, нават с паміж нашаго вясковаго брата, на ногі паставіў.

Сабраў і дапоўніў

**Юлько з Моладава.**

7/VI 1912.

# Як паправіць песчаную зямлю.

У нас у Беларусі ёсць шмат песчанай зямлі і гаспадары ні маюць з яе ніякай карысьці. А земля гэта, гэто багацтво для тых, хто ведаець што з ей рабіць.

Песчаная зямля маець такіе недахваты:

1) часьці яе (пясчынкі) мала, або і зусім, не звязаны с сабой, 2) слаба задержываюць ваду, 3) лішне нагрэваецца летам і прамерзае зімой, 4) мала мае ў сабе пажыўных часьцін. Гаспадар павінен зрабіць каб гэтых недахватоў не было, тады песчаная зямля будзе так сама радзіць як усякая другая.

Узгораная і слаба угноеная песчаная зямля злепляе пясчынкі і вада у ей дзяржыцца даволі доўга (гной, так сама, не дае лішне нагрэвацца ніві). У тых мейсцах, дзе вада пад песчаным грунтам стаіць высока, баяцца таго, што вады будзе мала, німа чаго, бо вада у сьпёку можэ паднімацца па карэньнях расьлін у верх.

Каб паправіць песчаную зямлю і зрабіць яе прыгоднай да пасеваў, сеюць вельмі карысную расьліну лубін. Жоўты лубін *(Lupinus luteus)* расьце на сухой песчанай глебе бяз гною і дае добры ураджай быльля багатаго азотам. Сіні (вускалістны) лубін *(Lupinus angustifolius)* лепей расьце на цяжкой гліністай зямлі і вымагае ужо не зусім пустой зямлі. Прафэсар Богданоў пішэ аб лубіне: „німа другой расьліны, каторая-б расла так добра на самых худых песках і давала так многа таго, чаго тутака патрэба,—надто многа зялёнай масы, багатай азотам“.

Як усе гарошкавые расьліны (канюшына, гарох, віка), так сама і лубін, тым адзначваюцца, што маюць на карэньні невялічкіе шышачкі. У гэтых шышэчках жывуць нявідзімые простым вокам жывучкі (мікробы), каторые збіраюць с паветра азот, газ патрэбны для жыцьця кожнай расьліны. На тым мейсцы, дзе ніколі ня сеяліся гарошкавые расьліны, лубін дрэнна расьце (дзеля таго, што зямля не заражэная жывучкамі). На такіх мейсцах трэба перэд пасевам лубіну раскідаць зямлі с таго мейсца дзе лубін ўжо рос даўней, або насеньне лубіну збрызгаць вадой у каторай былі перш расцерты карэньня з досраго лубіну таго-ж самаго гатунку.

Зямлю пад лубін трэба араць з восені і тым лепей, чым глыбей. Вясной пахата другі раз не арэцца, калі гэта зроблена восеньню; перэд пасевам лубіну, разсеваюць попел з дрэва і барануюць яго (сеюць лубін у маі месяцы), высеваюць лубіну на дзесяціну пудоў 10, 12 і 18. Лубін, калі ён сеецца не на семя, а на зялёны гной, то яго трэба загорываць у самы час красаваньня, калі краскі ешчэ не паадпадалі. Загорываць найлепей плугам.

Апрыч лубіна палепшаюць пяскі: 1) попел з дрэва — на дзесяціну 30 — 50 пудоў, 2) томасшяк, супэрфосфат, каініт, вапна (15 — 30 пуд. на дзесяціну). Вапну пасыпаюць посьле фосфорнаго кваву, без чаго вапна можэ нават пашкодзіць

зямлі. І касьцяная мука (парашок с паленых касьцей). 3) Торф, вывозіцца на ніву толькі сухім, а ешчэ лепей вывазіць торф каторы улежаўся пад жывёлай.

Гаспадары каторые прачытаюць гэту гутарку аб палепшеньні пяскоў, ніхай ні кажуць; што гэта ўсё добра... для паноў.

Пасейце на вашай убогай віўцы колькі пудоў лубіну і гэто найлепей пакажэ вам, што лубін гэто расьліна бязцэнная найбольш для бедных людзей у каторых нехват жывёлы, каб добра угнаіць сваё поле, а проста незамянімы ён для песчаных зямель.

**М. Б.**

---

# Змаганьне з сыпучымі пяскамі у Міншчыне.

Усякі земляроб ведаець, што цэлые абшары пяску, каторые расцілаютца па нашым краю, наводзяць на чэлавека нуду сваей мертвай пустыней: німа ні травінкі, ні кусціка.

Прычына гэтакіх пустынь — „сякера і саха“. Высекаюць у пень бяз розуму сасьнякі, „сухіе бары“, растучые на бедных пясчаных грунтах, дзе апрыч сосны нічаго і ня можэ расці. Потым гэту песчанную пасеку засеваюць 3—5 гадоў; земля аддаець скора ўсё, што у ей было пажыўнаго і больш ужо ня родзіць. Тагды кідаюць сеяць і пушчаюць пад пашу; скаціна нагамі вытопчэ да канца слабае дзярно і ужо праз 1 — 2 гады пасьля збору апошняго пасеву вецер пачынае перэганяць пясок з мейсца на другое, як сьнег у мяцеліцу і заметае суседніе грунты крок за крокам.

Найлепшы спосаб прытрымаць пясок — гэта засадзіць яго шэлюгой (salix acutifolia), гэта асобны сорт вербы, высокі куст с чырвонымі дубцамі, каторые з нізу пакрыты як бы шэра-срэбнай фарбай. Расцець яна у Мінскай губ. каля Днепра, Прыпяці, Берэзіны і др. рэчэк. Садзяць шэлюгу, кідаючы дубцы проста у баразну, пад плуг, лежаком, 2 — 3 аршына рад ад рада, калі песчаннае поле гарыстае, то садзяць дубцы стаяком; найлепш гэта рабіць тагды, калі у пяску ёсць вільгаць; значыць, рана вясной ці у восень дажджлівую.

Шэлюга найлепш расцець на самых злых сыпучых песках, на узгорках, сваімі ценькімі, на колькі сажэнь кожын, карэньнямі, засцілаець на самым верху пясок і яго замяцовываець, а рады дубцоў не даюць пяску разносіцца ветрам; па троху пясок злежываецца і усё гусцей бярэцца трава. Праз 2 гады ужо пяскі замацованы. Шэлюгу можна што 2 гады ссекаць, дубцы яе ідуць на кошыкі, пляцявікі, і т. д. і апрыч таго можна прадаваць на пасадку у другіх мейсцах. С дзесяціны такім

спосабам можна мець 4—8 руб. даходу, апрыч таго, па закону, з зямлі „шэлюгованнай“ 30 гадоў не бяруць ніякіх падаткоў ні казённых, ні земскіх. А шэлюга расцець гадоў 20, так што найлепш зашэлюгаваўшы пяскі, засадзіць пасьля соснай, або хто хочэ дачэкацца скарэй лесу — бярозай ці чорным тополем. Садзіць дрэва трэба гады праз 3 пасля „шэлюгаваньня“, 2 — 3 гадавымі сеянцамі, каторые садзяць паміж радамі шэлюгі.

Калі пяскі напалавіну задзірванелі, то трэба ужо не садзіць шэлюгі, а зразу сосну.

Усякаму земляробу, маючаму пяскі, казна дарма прысылаець аграномоў, дарма даець шэлюгу на пасадку, даець грошы на разпас насеньня.

Земства на свой рахунак прывозіць па жалезнай дарозе шэлюгу, сосну, земства прысылаець у помач аграномам сваіх агароднікоў, леснікоў, каб пільнаваць ад скаціны шэлюгу і сеянцы. Земляробы павінны прывязьці на сваей фурманцы са станціі шэлюгу і даваць работніка.

Гэтые-ж аграномы дарма радзяць і паказываюць усім, як дзе і што рабіць.

У палудзеннай часьці Міншчыны, у Палесьсі, шмат пяскоў, бо там грунты лежаць на, так званным, аллювіальным песчанным наносі, як толькі лес высякуць, робіцца песчанная пустыня. Аграномамі ужо агледжэна каля 18 тысяч дзесяцін пяску, каторы трэба былоб „шэлюгаваць“. Самы песчанны павет будзець Рэчыцкі, потым Мазырскі, Пінскі і Бабруйскі.

Закрэпляць пяскі пачалі с 1905 году. Засаджэна шэлюгой да гэтаго часу 1443 дзесяціны, паміж радамі шэлюгі пасаджэна сосна на 95 дзесяцінах. На гэты год казна адпусціла 20,000 руб. на закрэпленьня пяскоў у Міншчыне. Апрыч старшаго таксатора А. П. Голяхоўскаго (Мінск, Подгародная 48), каторы заведуець Мінскай, Магілеўскай і Гродзенскай губ. ешчэ ёсць аграном да пяскоў М. Е. Доброзраков (ст. Калінковічы, Мінск. губ. Мозырск. п.). Да гэтых аграномоў трэба пісаць усім, хто хочэ закрэпляць пяскі.

Апроч школкі дрэў для пасадкі у Калінкавічах, Мазырск. п., закладаюцца ешчэ школкі у м. Кайданаве, у г. Пінску; школкі шэлюгі закладаюцца у с. Піркі Рэчыцкаго п., у с. Тонежы Мозырск. п. у м. Любетові Пінск. п. у с. Лавстыках Бобруйскаго пав. Збіраюцца ешчэ зрабіць школкі у г. Бабруйску і м. Баранавічах.

У Магілеўскай губ. пяскамі заведуець таксатор Ю. У. Семенюк (г. Гомель Мог. г. Нікольская 11).

С 1913 году работы па закрэпленьню пяску адкрыюцца у Віленскай, Вітэбскай і Ковенскай г.

**А. П. Ґоляхоускі.**

**Мінск.**

# С практыкі пробнай станціі у Беняконях.

Заложэная летась пад кірункам п. Ластоўскаго пробная сельска-гаспадарская станція у Беняконях, паставіла сабе мэтай памагчы разгадаць самые пільные пытаньня нашай сельскай гаспадаркі. Яна робіць пробы і вылічае, які мае ўплыў і якую прыносяць карысць штучные навозы (попелы), зраўнівае ураджайнасць розных сартоў расьлін і устанаўлівае сарты каторые найбольш падходзяць да нашых варункоў, выпрабовывае розные севаабароты і т. п.

Ужо у першым гаду сваей працы, ня гледзячы на спозненьне з веснавымі пасевамі, і на непрыгатоўленнасьці поля для проб, усёж такі удалося дабыць цікавую практыку для нашых гаспадароў.

Гэтак з розных сартоў бульбы лепшымі аказаліся: „Вольтмана“ і „Сілезія“, с позных „Гаўронек“ і з ранных „Від“.

Дужа цікавая проба была зроблена са зрэзаньнем бульбоўніка у часе росту бульбы. Часць бульбоўніка зрэзвалі 15 ліпня, а другую часць пакінулі цэлай да капаньня бульбы.

Бульба са зрэзанным бульбоўнікам, дала шмат меншы ураджай і працэнт крахмалу аказаўся у ей шмат меншы, так што крахмалу з дзесяціны дзе быў зрэзан бульбоўнік аказалося чуць што не ў двая менш, чым з дзесяціны з нечэпаным бульбоўнікам.

Вось на гэта трэба звярнуць увагу нашым гаспадарам, каторые вельмі ахвотна абрэзваюць бульбоўнік, ня ведаючы, што гэтым паменшаюць сабе чуць не на палавіну ураджай бульбы.

З сартоў аўса лепшымі ў прошлым гаду аказаліся позные „Ліохов“ і „Тэодозія“.

Са ўсіх навозоў лепей за ўсё аплачываецца самы дарагі— сялітра, каторая асабліва добра ўплывае на авёс.

У гэтым гаду станція паставіла пробы па больш шырокай праграме і трэба спадзеяцца, што пад яе кірункам нашы гаспадаркі дабудуць не мала практыкі.

X.

---

# Аднадзенная выстаўка селянскай скаціны.

(ў Негневічах Новогрудзкаго павету, Мінск. губ.).

Новагрудзкае паветовае земство устроіло 3 ліпня (іюля) першую у Мінскай губэрні аднаднеўную акалічную выстаўку селянскай скаціны ў Негневічах. Устройство гэткіх дробна-акалічных выставак мае агромнае значэньне у справе падняцьця

гадоўлі скаціны. На паветовых і губэрнскіх выстаўках бывае зазвычай толькі скаціна з двароў, ды крыху з блізкіх вёсак, на выстаўках жэ дробных, каторая абхватывае ваколіцу на прамень якіх 20 — 25 вёрст, выстаўляюць скаціну зазвычай усе гаспадары гэтай ваколіцы і двары і селяне. І гэткая дробная акалічная выстаўка дае праўдзівы абраз развіцьця гадоўлі скаціны у даннай ваколіцы. Дзякуючы устройству гэткіх дробных выставак і раздачы наград за лепшые штукі, жыцелі пачынающь цікавіцца гадоўлей жывёлы, вытвараецца паняцце аб правільна зложэнай скаціне, а да таго населеньне прывучаецца да больш акуратнаго дагляду скаціны і да лепшаго падбору маладняка. У часе гутарак каторые устраіваюцца на гэткіх выстаўках, паказываюцца усе недахваты селянскай скаціны і на прыкладах тлумачыцца, чаго трэба вымагаць ад лепшай жывёлы і якой дарогай дабіцца палепшэньня скаціны. Да таго-ж дробные акалічные выстаўкі, каторые паўтараюцца што вядомы час, даюць змогу прыгледзіцца, што ёсць лепшаго с паміж скаціны у ваколіцы і якіе глаўные недахваты і як вясьці работу над палепшэньнем скаціны. Гэткіе акалічные выстаўкі, устраіваюцца зазвычай у сьвяточные, або кірмашные дні і цягнуцца адзін, а найбольш два дні, дык на іх ня трэба тых коштоў, якіе цягнуць за сабой вялікіе выстаўкі дык можна прыцягнуць на іх дробных гаспадароў усей ваколіцы. Дробные акалічные выстаўкі практыкуюцца цяпер блізка што ва усіх земскіх губэрнях Вялікарасеі, як напрыклад у Яраслаўскай губ., дзе устраіваюць гэткіе выстаўкі па два разы у год: у канцы мая дойных кароў, а у восень выстаўкі маладняка.

Устроеная першы раз выстаўка у Негневічах адразу зацікавіла селян гэтай ваколіцы довадам чаго было значнае чысло прыведзенай на выстаўку скаціны. Выстаўка была назначэна ад 10 гадзіны раніцы і да гэтаго часу было ужо прыведзено да 350 галоў. Трэба прыняць пад увагу, што большая частка прыведзенай скаціны была добрадагледжэна, добра зложэна і ўмеру аткормленая. Сярод прыведзеных кароў найбольш было мешанцоў—голендроў. Вядомая ступень падняцьця гадоўлі скаціны і перавага мешанцоў - голендроў у Негневічскай ваколіцы тлумачыцца ўплывам двара Шчорс графа Хрэптовіча-Бутенева, дзе з давён-даўна заведзена голендэрская скаціна і аткуль акалічные селяне карысталіся добрымі голендэрскімі бычамі. Апрача мешанцоў-голендроў шмат было і мейсцовай чырвонай беларускай скаціны, асобные штукі каторых не уступалі нічым голендэрцам-мешанцам і першую награду атрымала чырвоная карова. З другіх заводоў спатыкаліся мешанцы са швіцамі і сімэнталямі. Рэшта скаціны была мейсцовая не палепшэная, рознай масці. С паміж усей прыведзенай скаціны экспэртная камісія выбрала 74 штукі, с паміж каторых пастанавіла, пасьля больш акуратнай ацэнкі, раздаць награды. На награды было назначэна земствам 48 руб. і 10 пахвальных лістоў, прычым было пастаноўлена выдаць адну, першую, награду ў 6 рублёх, тры другіе па 5 руб. і 9 трэціх па 3 рублі.

Першую награду дастаў Даніла Стасевіч з вёскі Лахаво за чывонуюю беларускую карову 4 гадоў.

Другіе награды па 5 руб. дасталі Дземьян Сажыч з Негневіч за цёмна-бурую швыцкую карову 9 гадоў, Афрасіня Ледко з вёскі Пабярэзьзя за голендэрку 7 гадоў і Мікалай Лаўніковіч з Весялова за чырвоную мейсцовую 6 гадоў.

Трэціі награды па 3 рублі дасталі: Сымон Кучэйко з Негневіч за голендэрку 4 гадоў, Міхал Глобовіч з Весялова за голендэрку 8 гадоў, Грыгор Гайко з Новай-Весі за голендэрку 7 гадоў, Ю. Багель з вёскі Баярскай за голендэрку 6 гадоў, К. Яцешко з вёскі Паплавоў за чырвоную беларускую 8 гадоў, І. Каранеўскі з вёскі Мілушэва за чырвоную беларускую 4 гадоў, Е. Сажыч з Негневіч за беларускую чырвоную 5 гадоў, Н. Башко за голендэрскаго быка аднагодку і І. Дамулевіч з Лачацы за голендэрскаго бычка 1 года.

Пахвальные лісты былі раздадзены паміж мешанцамі сімэнталямі, голендрамі і мейсцовымі не улепшэнымі.

Устроеная цяпер выстаўка, была выстаўкай дойных кароў, дзеля таго, што селяне, прывялі толькі колькі цёлак і бычкоў. Выстаўка у Негневічах па числу прыведзенай скаціны удалася як ня можэ быць лепей і паслужыла доказам таго, насколька селяне зацікаўлены усім, што кіруецца да падняцьця сельска-гаспадарскай культуры ў шырокіх кругах селянства. У верэсьні (сенцябры) гэтаго-ж году Новагрудзкае земство маніцца устроіць выстаўку скаціны дробна-гаспадарскай і селянскай ў мястэчку Корэлічах каля Новагрудка і на выдачу наград асыгновывае 80 рублёў і 15 пахвальных лістоў. На другі год ў Новагрудзкім павеце думаюць устроіць блізка па усіх валасцях аднадзенные выстаўкі рагатай скаціны і на гэту мэту Новагрудзкае земство стараецца дастаць падмогу ад Дэпартамэнта Землеробства.

**Э. Б.**

Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу**·

Друкарня „Зніч“ Вільня.

# Карысць з новых адмен збожжа.

Столькі гавораць і пішуць цяпер аб новых палепшэных адменах збожжа і бульбы, што нават найцямнейшые гаспадары бывае паслухаюць намаўляньня і якіх пуды два — тры гэтаго дарагога насеньня купляюць. Ды не разумеючы якая карысць з гэтаго, яны часта думаюць, што ураджай свой з гэнаго насеньня удасцца ім прадаць, так сама, па вялікай цане. Калі гэты інтэрэс ім не паручыць то не раз нарэкаюць.

Збожжэ засеванае па вёсках розніцца ад таго, што с трудом выгадавана у школах збожжэ, як, прымерам, чэлавек цёмны ад вучонаго. Бо-збожжы гэты, не раўняючы, як дзеці у школах гадаваны і вучоны. Тые, што ў гэто кладуць сваю працу, то добрые людзі, бо яны прыспарываюць сьвету хлеба; яны вучаць збожжэ таго, што найбольш патрэбна — зрабіцца ураджайным.

Праца гэта ня лёгкая. З цэлаго поля выбіраюць адзінака вые найпаўнейшые каласы, ды з гэтых ешчэ найхарашэйшые зерняты, каторые пасьля і сеюць у школках. З сабранаго з гэтых зернят ураджаю ізноў збіраюць найлепшые, найбуйнейшые і ізноў сеюць у школцы. Тутака часта адно, зярно адзін колас паказывае асобны гатунак, тады яго разводзяць, а як гэта ўласнасць паўторыцца у пакаленьнях, робіцца новая адмена. Многа трэба вучыцца, многа пасьвяціць грошы і працы, каб гэту справу давясьці да канца. Дзеля гэтаго добрые адмены збожжа такіе дарагіе. Калі ужо іх развядуць усюды, цэна на іх спадае, а зярно памалу выраджаецца, злашча там, дзе няўмеюць з ім абходзіцца: за густа сеюць, дрэнна зьбіраюць і чысьцяць. Дзеля гэтаго найбольш бывае, што хоць дарага заплаціш за насеньне, гэтай цэны за ўласны ураджай ужо ня возьмеш. Але, падумаймо, ці-ж нам аб гэто ідзе? Ці ў гэтым глаўная карысць? Ды не, ня ў гэтым. Карысць у тым, што маем сягоньня з дзесяціны аўса (напрыклад адмена — „Рыхлік собешынскі“) і жыта Петкускаго да ста пудоў і болей, бульбы Вольтманкі па 1.000 — 1.500 пудоў і больш. Ці даўней хто чуў каб гэтак радзіла? З палавіны гэтаго рады былі.

Хто палічэ, колькі гэты прыбытак хлеба накарміў галодных, колькі малака напіліся дзеці, дзеля таго, што пабольшало пашы ў гаспадарцы? А хто палічэ, на сколькі край наш разбагацеў-бы, каб сьвятло навукі усякаму гаспадару атчыніло вочы і каб ён з добраго насеньня пры добрым вырабе з кожнаго загона падвоіў ураджай,

У гэтым былаб-б найлепшая нагрода за ахвярную працу вучоных, каторые нашэ поле і збожжэ вучаць зрабіцца ураджайнымі.

А калі хто гэтай працы нават зразумець ешчэ ня зможэ нехай, ідучы сьледам за іншымі для сваей карысьці гэтые „вучоные збожжа“ купляе-ткі і сеіць, дый с пабольшэнаго ураджаю нехай грош які адложыць на школу для дзяцей. Яны гэто калісь напэўна зразумеюць.

**(„Гаспадар“).**

**Верэс, як лекарство проці яшчура.** *(Выпробаванае).* Калі за рэе жывёла на яшчур трэба узяць на штуку добрую жменю бяз карэньня) сабранаго у часе красаваньня верэсу на $^3/_4$ ведра чыстай вады, распарыць добра, адцадзіць і даваць хворай скаціне заместа пойла. Скаціна пье атвар верэсу вельмі ахвотна і ужо на 3—4 дзень выздараўлівае.

Верэс трэба збіраць на запас у жніўні, верэсьні калі ён красуе.

# АБВЕСТКІ.

Выпісываючы на абвестках просім пісаць, што прачыталі яе у газ. „Саха“